Колб, К. Я. Феномен правацэнтрызму ў палітычным жыцці Польшчы ў пачатку XXI ст. / К. Я. Колб // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 161 – 166

**К. Я. Колб**

# ФЕНОМЕН ПРАВАЦЭНТРЫЗМУ Ў ПАЛІТЫЧНЫМ ЖЫЦЦІ ПОЛЬШЧЫ Ў ПАЧАТКУ XXI ст.

У пачатку XXI ст. адбыліся значныя трансфармацыі ў ідэалогіі і палітычнай канфігурацыі правага лагера Польшчы. У ім на вядучыя пазіцыі выйшлі дзве правацэнтрысцкія партыі — Грамадзянская Платформа (ГП) і Права і Справядлівасць (ПіС), якія сталі вызначаць ідэалагічны воблік і палітычную дынаміку правых сіл краіны. У беларускай гістарычнай навуцы аналіз палітычных пераўтварэнняў у Польшчы 1990-х гг. быў праведзены М. Э. Часноўскім [1]. Аднак стварэнне і ўзмацненне партый правага цэнтра ў пачатку XXI ст. не знайшлі адлюстравання ў айчыннай навуковай літаратуры.

**Прычыны змен у правым лагеры.** Адным са складнікаў поспеху ГП і ПіС стаў іх пераход на правацэнтрысцкія пазіцыі. Такая ідэйная пераарыентацыя з’явілася вынікам асэнсавання часткай правых палітыкаў зніжэння эфектыўнасці правай палітычнай філасофіі папярэдняга дзесяцігоддзя. Гэтая філасофія мела радыкальнае адценне і арыентавалася на ліквідацыю ўсяго звязанага з камуністычным мінулым, на хуткую перабудову сацыяльна-эканамічнага ладу Польшчы па ўзоры вядучых заходніх краін, на ўзмацненне ролі царквы і традыцыйных каштоўнасцей у грамадскім жыцці. Прывабнасць гэтых ідэй зніжалася па меры таго, як праяўляліся сацыяльныя і псіхалагічныя выдаткі ліберальнай эканамічнай палітыкі, а сярод насельніцтва, у першую чаргу — моладзі і жыхароў буйных гарадоў, распаўсюджваліся каштоўнасці «культурнага лібералізму».

Дадатковы ўдар па іміджы правых сіл быў нанесены няздольнасцю правай кааліцыі Выбарчая акцыя «Салідарнасць» (ВАС) — Унія свабоды (УС) (1997—2001 гг.) супрацьстаяць эканамічнаму крызісу і ўпартае нежаданне лідараў партый зрабіць крокі па пераадоленні ідэйна-палітычнага крызісу правых сіл, які стаў нарастаць на мяжы стагоддзяў [1, с. 192—212]. У выніку ў 2000—2001 гг. замарудзіліся тэмпы росту ВУП, аднавіўся рост беспрацоўя, рэзка павялічыліся цэны і дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту. Акрамя пагаршэння эканамічнага становішча, на стаўленне насельніцтва да кіруючай кааліцыі паўплывалі шматлікія факты фінансавых злоўжыванняў у краіне і пераход цэлых галін эканомікі пад кантроль яе ўдзельнікаў.

У студзені 2001 г. 66 % палякаў не верылі ў паляпшэнне эканамічнай сітуацыі ў краіне, 47 % рэспандэнтаў не бачылі ніякіх поспехаў у дзейнасці ўрада і толькі 8 % пазітыўна ацанілі «намер і адвагу» ў правядзенні рэформ [2, s. 1, 8]. Не менш крытычна палякі ставіліся і да прэм’ер-міністра Е. Бузэка, дзейнасць якога ў 2001 г. негатыўна ацэньвалі ад 47 да 55 % апытаных [3, s. 5]. Назіральнікі, зыходзячы з настрояў насельніцтва і раскладу палітычных сіл, прыходзілі да высновы, што ў Польшчы надыходзіць новая «левая хваля» [4, s. 24].

Унутры кіруючай кааліцыі абвастрылася барацьба па пытаннях зместу ўрадавага курса і далейшай стратэгіі. Яшчэ адным элементам дэзынтэграцыі ВАС стала заклапочанасць часткі яе палітыкаў уласнай палітычнай кар’ерай. Усё гэта падштурхнула працэс з’яўлення новых палітычных партый. Найбольш актыўнымі ў гэтай справе аказаліся М. Плажыньскі, А. Аляхоўскі і Д. Туск, якія ў студзені 2001 г. стварылі Грамадзянскую Платформу, а таксама браты Л. і Я. Качыньскія і Л. Дорн, якія ў чэрвені 2001 г. заснавалі партыю Права і Справядлівасць.

**Асаблівасці правацэнтрысцкай ідэалогіі.** ГП і ПіС паклалі ў аснову сваіх праграмных установак новую палітычную філасофію, у якой ідэі неалібералізму і соцыокультурнага традыцы-

**Колб Екатерина Евгеньевна** — студентка исторического факультета Белорусского государственного университета (специализация «История западных славян»)

яналізму спалучаліся з прызнаннем больш актыўнага ўдзелу дзяржавы ў сацыяльна-эканамічных працэсах. У сферы эканомікі ГП і ПіС выступалі за рынкавую эканамічную сістэму, але дапускалі магчымасць дзяржаўнага ўмяшальніцтва ў эканамічныя працэсы дзеля амартызацыі негатыўных праяў рыначнай стыхіі. У сацыяльнай сферы абедзве партыі былі прыхільніцамі скарачэння сацыяльнага пратэкцыянізму і ўмацавання ў грамадстве прынцыпу «апоры на ўласныя сілы» як галоўнага сродку вырашэння праблем палякаў. У той жа час ГП і ПіС былі супраць крайняга індывідуалізму, выступалі за развіццё ў грамадстве духу сацыяльнай салідарнасці і лічылі, што дзяржава павінна падтрымліваць тых, хто не можа самастойна вырашыць свае праблемы. У палітычнай сферы партыі выступалі за рэфармаванне дзяржаўных інстытутаў з мэтай зрабіць уладу больш эфектыўнай і наблізіць яе да інтарэсаў насельніцтва. У соцыокультурнай сферы ГП і ПіС былі прыхільнікамі захавання і зацвярджэння ў штодзённым жыцці традыцыйных каштоўнасцей [5; 6].

Падзяляючы аднолькавыя ідэйныя прынцыпы, ГП і ПіС не з’яўляліся абсалютна тоеснымі ў ідэалагічным плане. Платформа была больш ліберальнай і праеўрапейскі настроенай партыяй, тады як ПіС у большай ступені імкнулася да моцнай дзяржаўнай улады, сацыяльнага пратэкцыянізму і захавання традыцыйных каштоўнасцей.

Спалучэнне ва ўстаноўках ГП і ПіС прынцыпаў правай і левай дактрын дало падставы экспертам сцвярджаць аб правацэнтрысцкім характары абедзвюх партый. Іх кіраўніцтва таксама падкрэслівала правацэнтрысцкі характар сваіх аб’яднанняў. Так, Л. Дорн адзначаў, што «ПіС прадстаўляе цэнтраправы рэспубліканізм, плюралістычны ў эканамічных поглядах і з шырока распластанымі крыламі ў ідэйных пытаннях» [7, s. 21]. Лідары ГП называлі Платформу «неакансерватыўнай правацэнтрысцкай партыяй» [8, s. 31].

У той жа час, трэба адзначыць, што абедзве арганізацыі можна лічыць правацэнтрысцкімі толькі ў параўнанні з іншымі правымі партыямі Польшчы. Яны не зусім адпавядалі прынятаму на Захадзе падыходу, згодна з якім характэрнай рысай правацэнтрызму з’яўляецца спалучэнне эканамічнага, палітычнага і культурнага лібералізму.

**Палітычны ўздым правацэнтрыстаў.** Стаўка лідараў ГП і ПіС на новую ідэалогію дазволіла дзвюм арганізацыям хутка знайсці сваё месца ў палітычным пейзажы краіны, скарыстаўшыся стомленасцю палякаў ад дзесяцігоддзя жорсткага ідэйнага супрацьстаяння левых і правых сіл. Ужо на парламенцкіх выбарах восенню 2001 г. ГП і ПіС набралі, адпаведна, 12,68 % і 9,5 % галасоў, у той час як блок Выбарчая акцыя «Салідарнасць правых сіл», які з 1997 г. з’яўляўся галоўнай сілай правага лагеру, пацярпеў сапраўдны палітычны крах, атрымаўшы толькі 5,6 % галасоў супраць 33,83 % у 1997 г. [9] Пасля выбараў ГП і ПіС працягвалі нарошчваць аўтарытэт. Так, у апытаннях 2001—2005 гг. падтрымка Платформы вырасла з 10 % да 30 %, а рэйтынг ПіС узняўся з 6 % да 39 % [10, s. 3—4; 11, s. 3—4].

Адной з прычын такога ўздыму стала сама ідэалогія дзвюх партый. Для значнай часткі насельніцтва Польшчы правацэнтрызм стаў сімвалам новага курсу, які быў рэалістычным, узважаным і пазбаўленым выдаткаў, уласцівых для палітыкі правых урадаў 1990-х гг. Акрамя новай ідэалогіі, узмацненню аўтарытэту ГП і ПіС садзейнічаў той факт, што абедзве арганізацыі былі створаны «дысідэнтамі» з тагачасных правых партый. «Дысідэнцкі» імідж, з аднаго боку, дазволіў правацэнтрыстам пазбегнуць адказнасці за палітыку кіруючай кааліцыі, а з іншага — узмацніў спадзяванні насельніцтва на тое, што ў выпадку прыходу да ўлады ГП і ПіС у краіне будзе праводзіцца новы курс.

Росту аўтарытэту правацэнтрыстаў таксама садзейнічала палітычная кан’юнктура пачатку стагоддзя. Па-першае, абвастрылася супрацьборства ўнутры большасці партый правага і левага лагераў па пытаннях далейшай стратэгіі. На гэтым фоне ГП і ПіС выглядалі арганізацыямі, якія мелі вызначаны погляд на развіццё краіны. Па-другое, правацэнтрысты атрымалі магчымасць скарыстацца праваламі ў сацыяльна-эканамічнай палітыцы левай кааліцыі, якая кіравала Польшчай з 2001 г. Крытычныя ацэнкі ўрадавай палітыкі выраслі з 15 %

(лістапад 2001 г.) да 56 % (ліпень 2004 г.) [12, s. 2]. Найбольшую незадаволенасць выклікаў эканамічны курс, супраць якога ў чэрвені 2004 г. выказаўся 81 % рэспандэнтаў [13, s. 5]. Дзеянні ўрада адбіліся і на рэйтынгу левых партый. Падтрымка Саюза дэмакратычных левых сіл зменшылася з 30—36 % у 2002 г. да 4—8 % у 2005 г., рэйтынг другой па сіле левай партыі краіны — Польскай сялянскай партыі (ПСП) — за гэты час знізіўся з 7—12 % да 4—8 % [10, s. 3; 14, s. 3].

Ацэньваючы настрой насельніцтва, сацыёлаг Т. Жукоўскі ў 2003 г. адзначаў, што «ўпершыню з 1998 г. палітычны вецер дзьме направа, гэта азначае, што расце колькасць тых... хто верыць у механізмы вольнага рынку. У такім асяроддзі можа атрымаць поспех група, якая... грае на розных баках, не адмаўляецца ад папулісцкай рыторыкі, але кожны раз кажа пра эканамічныя пераўтварэнні» [15, s. 26]. На ролю такой групы з усіх палітычных сіл краіны ў найбольшай ступені падыходзілі правацэнтрысты.

Пераўтварэнне ГП і ПіС у рэальных прэтэндэнтаў на ўладу садзейнічала росту амбіцый кіраўніцтва дзвюх арганізацый, якія з 2004 г. сталі разглядаць адзін аднаго як палітычных супернікаў. На парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах 2005 г. іх супрацьборства праявілася ў поўнай меры. Пераможцам у гэтым першым сур'ёзным сутыкненні правацэнтрысцкіх партый выйшла Права і Справядлівасць, якая атрымала падтрымку 26,99 % насельніцтва, у той час як ГП заняла другое месца, набраўшы 24,14 % галасоў [16].

Прычынай поспеху партыі братоў Качыньскіх стала больш эфектыўная стратэгія барацьбы за галасы выбаршчыкаў. Грамадзянская Платформа імкнулася пазбягаць папулісцкіх абяцанняў і зрабіла стаўку на добра распрацаваныя праграмы пераўтварэнняў, перш за ўсё, у эканамічнай сферы. ПіС засяродзіла ўвагу на планах палітычных рэформаў і сацыяльных абяцаннях і нярэдка надавала папулісцкае адценне сваім прапановам. Гэтае больш удалае выкарыстанне своеасаблівасцей псіхалогіі насельніцтва і схіліла чашу палітычных вагаў на карысць братоў Качыньскіх.

У цэлым выбары 2005 г. сталі буйным поспехам правацэнтрыстаў. Яны заваявалі пасаду прэзідэнта (яе заняў Л. Качыньскі) і парламенцкую большасць. Адначасова выбары паказалі, што ГП і ПіС сталі галоўнымі партыямі правага лагеру.

**Правацэнтрысты ва ўладзе.** Пасля выбараў 2005 г. ГП і ПіС апынуліся перад больш складаным выпрабаваннем — выпрабаваннем уладай. Ад яго выніку залежаў адказ на пытанне аб тым, ці з'яўляюцца правацэнтрысты моцнай палітычнай сілай, або іх поспех 2005 г. быў проста вынікам спрыяльнай кан'юнктуры, як гэта было з уздымам левых партый у 2001 г.

Насуперак логіцы, ГП і ПіС не здолелі стварыць кааліцыю з-за несупадзення падыходаў да характару магчымага альянсу. Лідар ПіС Я. Качыньскі, імкнучыся захаваць за сваёй арганізацыяй ролю галоўнай партыі краіны, адхіліў патрабаванні ГП аб стварэнні раўнапраўнага саюза дзвюх партый. У выніку ГП перайшла ў апазіцыю да ўрада, а ПіС у 2006 г. была вымушана пайсці на кааліцыю з правакансерватыўнай Лігай польскіх сеймаў (ЛПС) і папулісцкай Самаабаронай. Гэты альянс забяспечыў ураду неабходную парламенцкую большасць, але так і не пераўтварыўся ў трывалы саюз. Партнёры ПіС, разумеючы залежнасць ад іх партыі Я. Качыньскага, пастаянна нарошчвалі патрабаванні, што зрабіла кіруючую кааліцыю арэнай унутранай барацьбы. Адным з наступстваў гэтага супрацьборства стаў рост незадаволенасці насельніцтва куруючай кааліцыяй і зніжэнне папулярнасці Права і Справядлівасці.

Другой прычынай падзення аўтарытэту ПіС сталі промахі ва ўнутранай палітыцы. Галоўнымі з іх можна назваць аўтарытарны стыль кіраўніцтва Я. Качыньскага на пасадзе прэм'ерміністра, адсутнасць адчувальных поспехаў у сацыяльна-эканамічным развіцці краіны, празмерны ўхіл у бок узмацнення цэнтральнай улады і разгортванне працэсу люстрацыі, які выклікаў неаднназначнае стаўленне палякаў. На працягу жніўня 2006 г. — кастрычніка 2007 г. палітыку кабінета ўхваляла ў сярэднім не больш за 27 % апытаных, у той час як негатыўныя ацэнкі склалі каля 44 % [17, s. 2]. Колькасць незадаволеных дзейнасцю Я. Качыньскага

вагалася ад 51 % (верасень 2006 г.) да 63 % (верасень 2007 г.), а ў спісе найбольш папулярных палітыкаў краіны лідар ПіС займаў толькі 7—8-е месца [17, s. 4; 18, s. 4—5].

Пралікі галоўнага суперніка дазволілі ГП набраць палітычныя ачкі за кошт дэманстрацыі сваёй апазіцыйнасці ўрадавай палітыцы і вылучэння больш узважаных прапаноў. Калі ў першае паўгоддзе пасля выбараў 2005 г. ПіС нязменна з'яўлялася самай папулярнай партыяй краіны, то са жніўня 2006 г. яе рэйтынг стагнаваўся на ўзроўні 24 %, у той час як падтрымка Платформы вырасла да 30 % насельніцтва [19, s. 2—3]. На датэрміновых парламенцкіх выбарах 2007 г. правацэнтрысцкія партыі памяняліся ролямі: ГП стала кіруючай партыяй, атрымаўшы 41,51 % галасоў, а ПіС, з падтрымкай 32,11 % палякаў, ператварылася ў галоўную апазіцыйную сілу [20]. Пасля перамогі ГП стварыла кааліцыю з Польскай сялянскай партыяй. Гэты альянс меў абсалютную большасць у Сейме (240 з 460 мандатаў) і аказаўся больш трывалым, што дазволіла ўраду без праблем надаваць сілу закона сваім праектам. Прапанаваны кааліцыяй ГП—ПСП план мадэрнізацыі Польшчы, які быў названы аналітыкамі «цывілізацыйным скачком» у развіцці краіны, грунтаваўся на прынцыпах свабоды, павагі да ўласнасці, дэбюракратызацыі, самакіравання, развіцця інстытутаў грамадзянскай супольнасці і адкрытасці для дыялога з усімі сацыяльна-палітычнымі сіламі краіны [21, s. 17]. Д. Туск пастараўся максімальна вытрымаць адпаведнасць урадавага курсу партыйнай філасофіі і правесці абяцаныя пераўтварэнні.

Нягледзячы на эканамічны крызіс 2008—2009 гг. і прыняцце шэрагу непапулярных рашэнняў, кабінет Д. Туска захаваў крэдыт даверу насельніцтва. Папулярнасць урадавай палітыкі, зменшыўшыся з 58 % (студзень 2008 г.) да 31 % (снежань 2009 г.), вырасла да 45 % у чэрвені 2010 г. [22, s. 2; 23, s. 2]. Адной з прычын такой дынамікі сталі змены ў эканамічным становішчы краіны ў 2010 г.: паскорыўся рост ВУП (1,8 % супраць 1,2 % у 2009 г.), інфляцыя стабілізавалася на ўзроўні 4 %, спыніўся рост беспрацоўя [24, s. 1]. Другой прычынай падтрымкі ўрадавай палітыкі сталі гнуткія метады яе правядзення. Прэм'ер-міністр адмовіўся ад буйнамаштабных і хуткіх рэформ, абраўшы тактыку «дробных крокаў». Курс яго ўрада спалучаў структурныя пераўтварэнні неаліберальнага характару з мерапрыемствамі ў інтарэсах найменш абароненых катэгорый насельніцтва. На стаўленне насельніцтва да ўрада паўплываў створаны Д. Тускам імідж вытрыманага, разважлівага, рашучага, але не цвёрдалобага палітыка. На працягу 2008 — першай паловы 2010 г. лідар ГП, з сярэднім рэйтынгам больш за 50 %, стабільна ўваходзіў у лік самых папулярных палітыкаў краіны [18, s. 2—3].

Поспехі ўрадавай палітыкі аказалі ўплыў на пазіцыі ГП. Партыя заставалася самай папулярнай арганізацыяй краіны, хаця яе рэйтынг знізіўся з 53 % у снежні 2007 г. да 36 % у снежні 2009 г., але вырас да 42 % у маі 2010 г. [19, s. 3; 23, s. 2; 25, s. 3]. У сярэдзіне 2010 г. стала відавочна, што ГП лепш за ПіС прайшла выпрабаванне ўладай. Нягледзячы на паразу ПіС на выбарах 2007 г., Я. Качыньскі захаваў за сабой пасаду старшыні партыі і пачаў актыўную крытыку новага ўрада за «нявуцтва, ляноту, няздольнасць да кіравання». Ён выкрываў «дваістую натуру» Д. Туска, яго амаральнасць і барацьбу супраць касцёла [26, s. 20]. Адначасова кааліцыі ГП—ПСП пачаў чыніць перашкоды прэзідэнт Л. Качыньскі, які накладаў вета амаль на ўсе яе ключавыя законапраекты. Аднак усе гэтыя дзеянні не прынеслі чаканага эфекту. Нягледзячы на эканамічны крызіс, у 2008—2009 гг. па ўзроўню папулярнасці ПіС заставалася другой партыяй краіны, амаль удвая (17—25 % пазітыўных ацэнак) саступаючы Платформе [27, s. 2; 28, s. 3]. Тым не менш кіраўніцтва ПіС разлічвала ўзяць рэванш у партыі Д. Туска на прэзідэнцкіх выбарах 2010 г. Яно спадзявалася на паўтарэнне сцэнарыя 2005 г., калі Л. Качыньскі, дзякуючы ўдалай перадвыбарчай кампаніі, перамог Д. Туска, які лічыўся фаварытам. Але на прэзідэнцкіх выбарах 2010 г. заваяваны ўрадам аўтарытэт дазволіў ГП нейтралізаваць псіхалагічны эфект ад смаленскай катастрофы, пакладзены ў аснову перадвыбарчай стратэгіі Я. Качыньскага, які імкнуўся паказаць сябе палітычным спадкаемцам загінуўшага брата. Прэзідэнтам краіны стаў кандыдат Платформы Б. Камароўскі.

Пасля выбараў ГП працягвала нарошчваць аўтарытэт, пераадольваючы спад папулярнасці, які адбыўся падчас эканамічнага крызісу. Партыя Д. Туска з лета 2010 г. да вясны 2011 г. нязменна заставалася самай уплывовай арганізацыяй краіны, маючы падтрымку каля 40 % насельніцтва. Такія пазіцыі партыі робяць цалкам верагоднай перамогу Платформы на парламенцкіх выбарах восенню 2011 г. Што тычыцца ПіС,то яе рэйтынг у гэты час вагаўся ў межах 15—30 %, але ў апошні час азначыўся рост яе папулярнасці. У гэтай сувязі нельга сказаць, што вынікі парламенцкіх выбараў перадвырашаны, але можна сцвярджаць, што ў любым выпадку іх пераможцам стане правацэнтрысцкая партыя.

**Прычыны поспеху правацэнтрыстаў у Польшчы.** Нягледзячы на нядаўняе стварэнне, ГП і ПіС сталі галоўнай палітычнай сілай краіны, што дае падставы сцвярджаць пра сапраўдны феномен правацэнтрызму ў палітычным жыцці Польшчы. На парламенцкіх выбарах 2007 г. дзве гэтыя партыі атрымалі падтрымку больш за палову выбаршчыкаў. Пасля выбараў яны пацвердзілі свой статус лідараў, прайшоўшы выпрабаванне ўладай. На выбарах 2010 г. менавіта кандыдаты ГП і ПіС разыгралі паміж сабой пасаду прэзідэнта, а на парламенцкіх выбарах 2011 г. галоўная барацьба, хутчэй за ўсё, разгорнецца паміж гэтымі дзвюма партыямі.

У аснове трывалых пазіцый правацэнтрыстаў знаходзіцца «попыт на цэнтрызм», які захоўваўся ў Польшчы на працягу першага дзесяцігоддзя XXI ст. Поспеху ГП і ПіС таксама садзейнічала, як ні парадаксальна, несупадзенне ў іх праграмных устаноўках, якое дазволіла пашырыць электаральную прастору правацэнтрызму. Прыхільнасць да ідэй эканамічнага, палітычнага і культурнага лібералізму разам з праеўрапейскай пазіцыяй дазволіла Платформе прыцягнуць галасы той часткі насельніцтва, якая імкнулася да мадэрнізацыі польскага грамадства і не баялася переменаў. ПіС, з яе выразным ухілам у бок сацыяльнага пратэкцыянізму, моцнай улады, нацыяналізму і традыцыйных каштоўнасцей, знаходзіла падтрымку сярод больш кансерватыўнай часткі насельніцтва. На карысць правацэнтрыстаў спрацавала і няздольнасць іх сапернікаў злева і справа распрацаваць праграмы, здольныя канкураваць з прапановамі ГП і ПіС.

Такім чынам, у пачатку XXI ст. вось палітычнага жыцця Польшчы змясцілася ў бок правага цэнтру. Пераўтварэнне ГП і ПіС у галоўныя партыі краіны змяніла польскую партыйную сістэму ў параўнанні з папярэднім дзесяцігоддзем. У краіне па-ранейшаму захоўвалася блокавая шматпартыйнасць, але на змену кааліцыям левых і правых партый прыйшлі альянсы, у якіх ролю ядра выконвалі правацэнтрысцкія сілы. Змяненне канфігурацый кіруючых кааліцый дае падставы для розных прагнозаў наконт далейшай эвалюцыі партыйнай сістэмы Польшчы. Так, у ёй можа ўсталявацца аналаг амерыканскага біпартызму, калі за ўладу змагаюцца не правыя і левыя партыі, а больш ліберальная і больш кансерватыўная партыя правага лагеру. У выпадку аб’яднання левых сіл і пераадолення імі крызісу ідэнтычнасці можна прагназаваць або вяртанне да класічнай блокавай шматпартыйнасці, або ўсталяванне ў Польшчы біпартызму брытанскага тыпу, у выпадку калі правацэнтрысты і левыя сальюцца ў адзіныя партыі. Магчымы і іншыя варыянты, але толькі практыка дасць адказ на пытанне пра тое, у якім накірунку зменіцца польская партыйная сістэма. У любым выпадку краіну чакаюць сур’ёзныя палітычныя змены, аналіз якіх будзе прадстаўляць нямалы інтарэс для даследчыкаў.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Часноўскі, М. Э.* Сістэмныя пераўтварэнні ў Рэспубліцы Польшча (1989—1999) / М. Э. Часноўскі. Мінск : БДУ, 2000. 288 с.
2. Opinia społeczna o osiągnięciach i porażkach rządu Jerzego Buzka po czterech latach funkcjonowania: komunikat z badań. Warszawa : CBOS, 2001. 13 s.
3. Stosunek do polityków w czerwcu: komunikat z badań. Warszawa : CBOS, 2001. 11 s.
4. *Paradowska, J.* Sita cedzą / J. Paradowska // Polityka. 2001. Nr. 24. S. 24—26.

5. By żyło się lepej. Wszystkim! Program wyborczy Platformy Obywatelskiej. Warszawa, 2007. 88 s.
6. Dbamy o Polskę. Dbamy o Polaków. Program wyborczy Prawa i Sprawiedliwości. Warszawa : bez wyd., 2007. 72 s.
7. *Paradowska, J.* Ruch dwóch / J. Paradowska // Polityka. 2001. Nr. 29. S. 20—23.
8. *Janicki, M.* Dwóch bez atu / M. Janicki // Polityka. 2001. Nr. 47. S. 30—32.
9. O wynikach wyborów do Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej przeprowadzonych w dniu 23 września 2001 r.: Obwieszczenie Państwowej Komisji Wyborczej z dnia 26 września 2001 r. // Dziennik ustaw Rzeczypospolitej Polskiej. 2001. Nr. 109. Poz. 1186.
10. Preferencje partyjne w grudniu: komunikat z badań. Warszawa : CBOS, 2002. 4 s.
11. Preferencje partyjne w grudniu: komunikat z badań. Warszawa : CBOS, 2005. 4 s.
12. Notowania rządu i premiera Leszka Millera: komunikat z badań. Warszawa: CBOS, 2002. 8 s.
13. Stosunek do rządu i premiera w grudniu: komunikat z badań. Warszawa: CBOS, 2004. 8 s.
14. Preferencje partyjne tydzień przed wyborami: komunikat z badań. Warszawa: CBOS, 2001. 3 s.
15. *Paradowska, J.* Takich dwóch jak ich trzech / J. Paradowska // Polityka. 2003. Nr. 49. S. 24—26.
16. O wynikach wyborów do Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej przeprowadzonych w dniu 25 września 2005 r.: Obwieszczenie Państwowej Komisji Wyborczej z dnia 27 września 2005 r. // Dziennik ustaw Rzeczypospolitej Polskiej. 2005. Nr. 195. Poz. 1626.
17. Stosunek do rządu przed samorozwiązaniem Sejmu: komunikat z badań. Warszawa : CBOS, 2007. 8 s.
18. Zaufanie do polityków w trakcie kampanii wyborczej: komunikat z badań. Warszawa : CBOS, 2007. 11 s.
19. Preferencje partyjne w grudniu: komunikat z badań. Warszawa : CBOS, 2007. 2 s.
20. O wynikach wyborow do Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej przeprowadzonych w dniu 21 października 2007 r.: Obwieszczenie Państwowej Komisji Wyborczej z dnia 23 października 2007 r. // Dziennik ustaw Rzeczypospolitej Polskiej. 2007. Nr. 198. Poz. 1438.
21. *Paradowska, J.* Słowa na początku / J. Paradowska // Polityka. 2007. Nr. 48. S. 16—18.
22. Stosunek do rządu w czerwcu: komunikat z badań. Warszawa: CBOS, 2010. 7 s.
23. Dalszy spadek notowań rz du: komunikat z badań. Warszawa: CBOS, 2009. 8 s.
24. *Nowakowska, A.* Biznesplan Tuska / A. Nowakowska [i inne] // Gazeta wyborcza. 2010. 30—31 stycznia. S. 1.
25. Preferencje partyjne w maju: komunikat z badań. Warszawa : CBOS, 2010. 3 s.
26. *Paradowska, J.* Wypisy z PiS / J. Paradowska // Polityka. 2008. Nr. 29. S. 20—21.
27. Preferencje partyjne w grudniu: komunikat z badaD . Warszawa : CBOS, 2008. 4 s.
28. Preferencje partyjne w grudniu: komunikat z badań. Warszawa : CBOS, 2009. 4 s.

## РЕЗЮМЕ

В статье рассматривается процесс создания партий правого центра в Польше (Гражданская Платформа, Право и Справедливость) и их превращения в главную политическую силу страны. Автор объясняет причины перехода от правой идеологии к правоцентризму, отмечает его особенности и причины роста популярности. Также в статье анализируется влияние политики правоцентристских правительств на позиции ГП и ПиС. В заключение автор делает прогнозы относительно дальнейшего развития польской партийной системы.

## SUMMARY

The article is devoted to the formation of parties of the right center in Poland (The Civic Platform, Law and Justice) and to their transformation into the main political force of the country. The author explains the reasons of the right's transition into a new quality, which the right center was. She allocates the main features of ideology of the new parties and the reasons of growth of their popularity and influence. Also there is a description of the policy of polish governments at the beginning of the XXI century and their influence on relations and communications between the main political parties. In conclusion the author predicts the further development of the right center parties and the whole Polish political system.

Статья поступила в редакцию 6 января 2011 г.